# Тыднёвік Магілёўскі

№ 6 (6)
25.04.97


## 26 красавіка — Дзень нацыянальнага смутку

*"...Пад пытаннем самое існаванне (фізічнае) дзесяцімільённага народу. Радыяцыя ўдарыла перш за ўсё па нашай рэспубліцы. Як пісала адна цэнтральная газета, не разумеючы, што піша: "На шчасце, вецер дзьмуў не на Кіеў". Сапраўды, у самыя грозныя дні, з 26 па 30 красавіка (а потым яшчэ шмат дзён), вецер цягнуў радыеактыўныя ападкі на Гомель, Магілёў, Жлобін, Мазыр, Слаўгарад, Краснаполле, Рэчыцу, Хойнікі, Нароўлю, Брагін, Пінск, Слуцк, Брэст... Дасталося і Мінску. А паміж гэтымі гарадамі тысячы вёсак. Колькі людзей атрымалі розныя дозы радыяцыі і праз колькі дзён ці гадоў гэта паўплывае на кожнага, сказаць цяжка... І трэба вывозіць дзяцей, падлеткаў, цяжарных жанчын і ўвогуле ўсіх, каго можна... і не на месяц-два, а пакуль не нармалізуецца сітуацыя".*

**Алесь АДАМОВІЧ**
**(З пісьма ў ЦК КПСС ад 1 чэрвеня 1986 года).**

*P.S. Усе здымкі сённяшняга нумара, за выключэннем двух, аб'яднаны адной тэмай — Чарнобыль.*




## Як абараняць свае правы

Гэтаму вучылі чатыры дні ў Мінску прафсаюзны актыў Беларусі прадстаўнікі Міжнароднай Канфедэрацыі Свабодных Прафсаюзаў на семінары, праведзеным па ініцыятыве вядомай у Еўропе гуманітарнай праграмы TACIC. Упершыню ўдзел у падобных мерапрыемствах прынялі і дэлегаты ад афіцыйных "дзяржаўных" прафсаюзаў. Ад Магілёва на семінары, такім чынам, было двое прадстаўнікоў — старшыня рэгіянальнай арганізацыі Свабодных прафсаюзаў С.Абадоўскі і старшыня прафкама ліфтабудаўнічага завода С.Шыбека.

На семінары адбыўся эпізод, пра які мы проста не можам не паведаміць чытачам. Ён зрабіў уражанне і на замежных гасцей мерапрыемства, якія добра ведаюць стаўленне ў нас "да правоў працоўных", і на дэмакратычных слухачоў. Усе разам, аднагалосна і аднадушна, у даволі рэзкай форме прынялі пратэст на адрас адміністрацыі Салігорскага аўтапарка, якая незаконна звольніла старшыню тамтэйшай арганізацыі СП. Дэмакраты па сённяшні дзень губляюцца ў здагадках: далучэнне прадстаўнікоў афіцыйных прафсаюзаў да абароны законнасці прадэманстравана таму, што ў міжнароднай канфедэрацыі заведзена справа за № 1875 аб "беларускай сітуацыі" або, каб прадэманстраваць афіцыйную лінію кіраўніцтва краіны на "наладжванне дыялога" з апазіцыяй?

А можа таму — выкажам меркаванне ад рэдакцыі, — што ўдзельнікі семінара аказаліся проста асабіста прыстойнымі людзьмі.

**Уласная інфармацыя.**

## Пікет як люстэрка сацыялагічнага партрэту магілёўскіх настрояў

У мінулую нядзелю, якая папярэднічала дню нараджэння Адольфа Гітлера — любімага гістарычнага персанажа нашага прэзідэнта — маладзёжнае згуртаванне "Патрыёты Бацькаўшчыны. Рух у Еўропу" правяло ў Магілёве антыфашысцкі пікет. Ён быў замоўлены арганізатарамі на панядзелак, але, зразумела, быў забаронены (пра гэта ў нашай газеце вы прачытаеце на 2-ой стар.).



Чыноўніцкую логіку, якая ўся ўкладваецца ў знакамітую шчадрынскую формулу "хватать и не пущать", зразумець нармальным людзям наогул цяжка. А забарону пікету супраць фашызму ў краіне, якая ў Другой сусветнай вайне страціла кожнага свайго чацвёртага жыхара, — зразумець немагчыма, як не паварочвай гэтую тэму. Застаецца адно: падазраваць уладу ў тым, што пікет мог бы быць дазволеным, каб меў накіраванасць не супраць, а —за... І ўсё ж,

ват без эксцэсаў. Людзі ў цывільным і міліцыянты назіралі за пікетам, фіксавалі яго на фотакамеры, адзывалі ў бок для "папераджальных гутарак" тых, каго лічылі арганізатарамі... але ж не адважыліся на грубы разгон і вырыванне з рук пікетчыкаў плакатаў і транспарантаў. Нехта з іх, відаць, зразумеў, што надта дзіка выглядаў бы міліцыянт (хаця сёння многае робіцца, каб ператварыць чалавека ў форме ў бяздумнага выканаўцу), які б вырываў з рук юнага дэманстранта плакат "Мы супраць фашызму". Складаным практыкаваннем на рэакцыю сталася для ахоўнікаў парадку і тое, што пікетчыкі трымалі ў руках плакат з выявай знакамітай цытаты Лукашэнкі аб Гітлеры і ягоным парадку. З аднаго боку гэта, зразумела, крамола — 50 апошніх гадоў свет толькі і робіць, што змагаецца з любымі праявамі сімпатый да нечалавечай тэорыі і практыкі "германскага парадку", а з другога — гэтая знакамітая цытата не што іншае, як сапраўднае меркаванне роднага прэзідэнта. Вось і давялося людзям у пагонах і цывільным з разгубленасцю на тварах і без "канкрэтнай справы" мерзнуць не па сваёй волі на пранізлівым ветры каля "Прыорбанка" цэлую гадзіну.

Пікетчыкі не проста заяўлялі свой настрой, але і збіралі подпісы магіляўчан пад заявай аб асуджэнні курса, якім вядзе Беларусь яе сённяшняе кіраўніцтва. На працягу гадзіны сотні магіляўчан спыняліся ля пікету, завязвалі шчырыя гутаркі з дэманстрантамі і паміж сабой, але да сшытку з подпісамі, дзе трэба было пазначыць сваё прозвішча і адрас, многія адносіліся абачліва. Тым не менш некалькі дзесяткаў гараджан не сталі хаваць свайго адмоўнага стаўлення да цяперашняй сітуацыі. Адзначым, праўда, і тое, што каля пікету немала спынялася і тых, хто агрэсіўна не падзяляў ні настрою акцыі, ні самога права юных грамадзянаў Магілёва на такую дэманстрацыю. Не сказаць, што гэта былі адныя ветэраны з тых, для якіх любыя паводзіны ў нязгоду з любой, але афіцыйнай уладай —недапушчальнае свавольства. Былі і сярэднеўзроставыя, і маладыя людзі, інтэлігенты з выгляду і простыя "рабацягі", якім хацелася "адправіць пікетчыкаў у Сібір", каб яны не падбухторвалі народ няведама на што за "амерыканскія грошы". Немала магіляўчан і проста спяшалася мімаходзь, кідаючы ў бок пікету спачувальныя, але іранічныя ўсмешкі. Адзін з такіх, мой знаёмец, паспачуваўшы мне за тое, што па журналісцкаму абавязку я "вымушаны" мерзнуць побач з пікетам "нейкіх дзяцей", заўважыў: не так, не такім чынам трэба змагацца з рэжымам. Але сам заспяшаў далей, так і не адкрыўшы мне свайго таямнічага ведання таго, як гэта трэба рабіць.

Ледзь не забыўся паведаміць, міліцыянты мерзлі ўсё-такі не дарэмна. Адразу пасля скончэння пікету яны ўручылі прама на вуліцы позву старшыні абласной арганізацыі БНФ Анатолю Фёдараву з запрашэннем "явиться к 9 часам 22 апреля 1997 г. к начальнику Центрального РОВД полковнику Терехову". Напачатку пікету начальнік РАУС, гэты самы, пад'язджаў да месца акцыі і ўбаку ад усіх вёў з А.Фёдаравым нейкую ажыўленую і, здавалася здалёк, мірную гаворку. Відаць, аб нечым не дагаварылі...

**Г.СУДНІК.**

**Радасці, міру і дабрыні ў сэрцах і душах, згоды ў сем'ях і дачыненнях з усімі людзьмі жадае чытачам рэдакцыя "Тыднёвіка Магілёўскага" ў светлыя дні праваслаўнай Пасхі!**

## ПАСТЫРСКОЕ ПОЗДРАВЛЕНИЕ

# ХРИСТОС ВОСКРЕСЕ!

Поздравляя всех Вас с Пасхой Господней, не могу не воспользоваться удобным случаем к назиданию. Духовной пищей всем нам да будет Вселенского Великого Учителя и Святителя Иоанна Златоуста слова: "Аще кто благочестив и боголюбив, да насладится сего светлого и доброго торжества". Именно, надо иметь благочестие и боголюбие, чтобы воспринять в себя святость Пасхи Господней, чтобы вместить в свое сердце радость торжества Воскресения Христова и насладиться пиром нашей Православной Веры.

Добрые христиане всегда готовы к встрече со Христом, для чего особенно в дни святой Четыредесятницы очищают души свои от грехов и нечестия, когда в воздержании, всепрощении и молитве смиренно достигают настоящего благочестия и боголюбия.

Ныне эта встреча с Воскресшим Господом нашим Иисусом Христом наступила для всех нас. И вся вселенная светло празднует победу Христа над смертию, Воскресение Его из мертвых. Но по-настоящему духовно наслаждаются этим торжеством из торжеств токмо благочестивые и любящие Господа!

Когда воскрес Господь наш Иисус Христос, то первое слово Его ученикам Своим было "Мир вам". Радость пасхальную вкусили те, кто сострадал Христу у креста, кто последовал за Ним, исполняя Его заповеди.

Итак, истинное боголюбие и благочестие, подобно тому, как и истинный пост, заключается в исполнении заповедей Господних в любви к Богу и ближним, в устроении мира в Церкви Божией, в своей душе и во всем мире.



Праздник Пасхи Господней — это величайший подвиг любви Богочеловека к роду человеческому и победы Его над смертию. Все, возлюбившие жизнь во Христе, истинно наслаждаются сего доброго и светлого торжества.

Молитвенно желаю всем Вам, братие и сестры, быть в числе истинных благочестивых боголюбцев, сподобиться внити в радость Господа своего и наследовать жизнь вечную.

Христос Воскресе!

Воистину Воскресе!

**Божией Милостью Смиренный Максим, Архиепископ Могилевский и Мстиславский**

**Пасха Христова 1997 г.**

**Могилев-на-Днепре**

# ПРОГРАММА ПАСХАЛЬНЫХ ПРАЗДНОВАНИЙ В ХРАМАХ МОГИЛЕВА

### 25 АПРЕЛЯ — ПЯТНИЦА

**Собор Трех Святителей**
Царские часы — 8.00
Вынос Плащаницы — 14.00
Чин Погребения — 18.00

**Свято-Никольский монастырь**
Царские часы — 7.00
Вынос Плащаницы — 12.00

**Борисо-Глебская церковь**
Царские часы — 8.00
Вынос Плащаницы — 12.00
Чин Погребения — 17.00

### 26 АПРЕЛЯ — СУББОТА

**Собор Трех Святителей**
Литургия — 9.00
Чтение деяний — 20.00
Пасхальная служба — 23.00
Освящение куличей — с 14.00 до 23.00

**Свято-Никольский монастырь**
Чин Погребения — 4.00
Литургия — 9.00
Чтение деяний — 20.00
Пасхальная служба — 23.00

**Борисо-Глебская церковь**
Литургия — 9.00
Чтение деяний — 20.00
Пасхальная служба — 23.00
Освящение куличей — с 14.00 до 23.00

### 27 АПРЕЛЯ — ВОСКРЕСЕНЬЕ

Освящение куличей во всех храмах с 4.00

**Собор Трех Святителей**
Вечерняя литургия — 16.00

***

***Праваслаўныя святары горада і вобласці ў святочныя пасхальныя дні наведаюць з віншаваннямі, малітвамі, асвячэннямі і падарункамі дзіцячыя дамы, месцы пазбаўлення волі, бальнічныя палаты. Такое стаўленне да людзей, якім цяжэй, чым іншым — у традыцыях праваслаўя. Яны былі парушаны, калі на шляху міласэрнасці і дабрыні паўстала ўлада "рабочых і сялян". Царква і па сённяшні не аправілася ад умяшальніцтва ў сваё жыццё і ад дзяржаўнай залежнасці. Вяртанне да традыцый, у аснове якіх увага да душы і маралі чалавека, — найлепшы сродак адраджэння аўтарытэту Веры і Царквы.***

***Праграма святкавання Хрыстовага Ўваскрасення дае царкве добрую магчымасць праявіць сябе не ўстановай або "Ідэалагічным аддзелам" дзяржавы, а аб'яднаннем сапраўды Хрыстовых людзей, светлых духам і шчодрых сэрцамі.***

# Спекуляцыі на бядзе

Бадай, толькі празмерна наіўныя і надта даверлівыя людзі, насуперак усякай логіцы і здароваму сэнсу, па-ранейшаму з верай, надзеяй і любоўю ставяцца да неабачліва абранага імі прэзідэнта. Яны неяк не заўважаюць ні яго бессаромнага папулізму, ні яго хваравітай упэўненасці ў толькі сваёй беспамылковасці і варожасці іншых, ні яго дыктатарскіх памкненняў. Як не заўважаюць яны і яго недаравальных спекуляцый вакол самай страшнай і небяспечнай бяды — чарнобыльскай...

Прыгадваюцца пампезныя і прапагандысцкія паездкі А.Р.Лукашэнкі ў канцы сакавіка 1995 года і ў леташнім чэрвені па самых забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях Магілёўшчыны. Пры першай паездцы падчас сустрэчы з вяскоўцамі напалову адселенага з-за радыяцыі калгаса "Бальшавік" Чэрыкаўскага раёна прэзідэнт раптам, нібы выйшаўшы з-пад кантролю чарнобыльскі атам, шырокім жэстам дазволіў: жывіце там, дзе хочацца, няма ахвоты перасяляцца —заставайцеся на месцах... Як мала людзей, у чарговы раз "купіўшыся" на знешнюю прэзідэнцкую "дэмакратычнасць", звярнулі ўвагу на абыякавасць да лёсаў многіх і многіх людзей, што праявілася ў гэтым жэсце, на недаравальную лёгкасць у падыходзе да няпростай праблемы...

Тады ж гэту сваю "лёсаносную" думку гаспадар рэспублікі, але ўжо як абавязковую да выканання, паўтарыў у час нарады з абласным актывам. Праўда, тагачасны міністр аховы здароўя Інэса Драбышэўская зрабіла спробу падказаць актыву: усё ж, маўляў, жыццё сем'яў з дзецьмі да 14-гадовага ўзросту ніяк не пажаданае на тэрыторыях са шчыльнасцю забруджання ад 15 і вышэй кюры на квадратны кіламетр. Ды неяк пракаўтнулася яе істотная заўвага пад нядобрым позіркам "бацькі". І толькі няўтульна-анямела адчулі сябе міністр па надзвычайных сітуацыях Іван Кенік і міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Лявонаў. На большае, праўда, іх і не хапіла.

Крыху пазней, у выніку такой вось беспрынцыпнай згоднасці, з'явілася ўрадавае рашэнне аб так званай "рэабілітацыі населеных пунктаў" з сярэдняй шчыльнасцю забруджання вышэй за 15 кюры. У нас ва ўрадавы пералік трапіла 14 пасёлкаў. Людзі ў іх засталіся, а сапраўднай рэабілітацыі, гэта значыць стварэння ўсіх неабходных умоў для бяспечнага жыцця, ім наўрад ці калі дачакацца. Жывуць адным днём! Нават у Вепрыне Чэрыкаўскага раёна — дзе шчыльнасць 34 кюры! — як ні ў чым не стала карыстаюцца ўсім са сваёй хворай зямелькі ажно 11 сем'яў. Што зробіш, калі сам прэзідэнт дазволіў жыць, дзе каму хочацца?!



Не задумваючыся, цалкам паклаўшыся на спекулятыўны папулізм кіраўніка краіны, часам людзі жывуць нават там, дзе не тое, што небяспечна і супрацьпаказана, а і ўвогуле немагчыма. Да прыкладу, састарэлыя і нямоглыя муж і жонка Гнедавы бядотна адлічваюць свой час у адзінай не закапанай у зямлю хаціне былой вёскі Малінаўка. А яна ж сумна вядомая разам з суседняй вёскай Чудзяны самай высокай на Магілёўшчыне радыяцыяй. Вакольныя землі, як і сама вёска, забруджаны не толькі цэзіем-137, але і стронцыем-90, часткова плутоніем-240. А між тым Гнедавы тут аруць і сеюць, вырошчваюць хлеб і бульбу, косяць траву для каровы.

Такія ж гарапашнікі, паверыўшы на слова прэзідэнту, марна чакаюць лепшай долі ў шмат якіх іншых адселеных вёсках Прыдняпроўя. Свой, як заўжды пышна абстаўлены мінулагодні вояж у чарнобыльскія раёны Магілёўшчыны спадар Лукашэнка тлумачыў жаданнем асабіста разабрацца са станам спраў на месцах, каб выдзеліць дастаткова сродкаў на першапачатковыя работы па далейшым змякчэнні радыяцыйных паследкаў... Разабраўся. Выдзеліў. Але... па-лукашэнкаўску, калі думаецца адно, гаворыцца другое, а робіцца ліхаведама што.

Летась на чарнобыльскія патрэбы наша вобласць атрымала трыльён рублёў. Гэта (у супастаўляльных цэнах) у 11 разоў менш, чым ёй было выдзелена на гэтыя мэты ў 1991 годзе. Сёлета ж па капітальных укладаннях атрымана ўсягс-наўсяго 342.2 мільярда рублёў. Яшчэ 116.6 млрд. рублёў адпушчана на газіфікацыю забруджаных раёнаў, асфальтаванне дарог на іх тэрыторыях, пракладку водаправодных сетак. Кропля ў моры!

Што тычыцца сродкаў на аздараўленне пацярпелага ад радыяцыі насельніцтва, найперш дзяцей, дык тут увогуле нейкая неразбярыха. Марна, зразумела, чакаць, што грошай на гэту святую справу будзе дастаткова. Дарэчы, у мінулым годзе аздараўленне прайшлі ўсяго 60 адсоткаў ад агульнай колькасці тых, хто меў вострую неабходнасць у ім. Ды і вялося яно ў асноўным па лініі фонду Грушавога "Дзецям Чарнобыля". Зараз, калі не сунімаюцца прэзідэнцкія накаты на гэты фонд, лагічна чакаць поўнага паралічу ў справе аздараўлення.

Атрыманых сёлета сродкаў Магілёўшчыне наўрад ці хопіць нават на самыя гарачыя чарнобыльскія дзіркі. А між тым здароўе людзей з кожным годам усё больш пагаршаецца. Да прыкладу, у Краснапольскім раёне ў постчарнобыльскі перыяд у параўнанні з дааварыйным у тры разы выраслі анкалагічныя захворванні. Катастрафічна прагрэсіруе ў людзей разбурэнне цэнтральнай нервовай сістэмы. Усё больш пашыраецца страшная хвароба Паркінсона. Фіксуюцца сур'ёзныя парушэнні мазгавога кровазвароту. Адзначаецца масавая, асабліва ў дзяцей, паталогія шчытападобнай залозы. Усё гэта медыкі назіраюць ва ўсіх 13 пацярпелых раёнах вобласці. І не толькі ў іх.

Таму частка чарнобыльскіх сродкаў накіроўваецца на завяршэнне медыцынскіх аб'ектаў — даўгабудаў. Скажам, плануецца закончыць, нарэшце, будаўніцтва ўчастковых бальніц у трох пасёлках для перасяленцаў (Андраны, Трылесіна, Пудаўня), а таксама пазне-аздараўленчага камбіната ў Слаўгарадзе. Складанай па-ранейшаму застаецца сітуацыя з будаўніцтвам цэнтральнай раённай бальніцы ў Касцюковічах. Яе персанал два гады таму пікетаваў прэзідэнцкі картэж ля сцен сваёй занядбанай установы. Маўляў, напраміль бог, дапамажыце: патрэбна новая бальніца. Старой драўлянай, у якой некалі месцілася панская стайня, больш 100 гадоў. Хірургічнае аддзяленне развальваецца, інфэкцыйнае яшчэ ў горшым стане. Усе карпусы ледзь ліпяць. Прэзідэнт Лукашэнка паабяцаў дапамагчы, тым больш што новую бальніцу пачалі будаваць яшчэ ў гады былога Саюза, але аб'ект надоўга быў замарожаны. І каб на ім не выкарыстоўваць і без таго мізэрныя чарнобыльскія сродкі, прэзідэнт даў распараджэнне фінансаваць аб'ект з рэспубліканскага бюджэту. Але цяпер у Касцюковічах чакаюць, калі гэты бюджэт выздаравее і падужэе. Мо крыху перападзе тады з яго і на новую бальніцу...

Нешта накштапт гэтага і з яшчэ адным чарнобыльскім аб'ектам-даўгабудам: сярэдняй школай у Краснаполлі. У цяперашняй, неабачліва пабудаванай некалі на старых могілках, ладнавата прасеў падмурак. Школа апынулася ў аварыйным стане. Гадоў шэсць таму пачалі будаваць новую. Для яе завяршэння неабходна 35-40 мільярдаў рублёў. Сёлета сюды накіравана толькі 2,5 мільярда. Калі і надалей будзе такое фінансаванне, дык няцяжка падлічыць, праз колькі гадоў Краснаполле атрымае новую школу.

Ці ўзяць, да прыкладу, сярэднюю школу ў забруджанай вёсцы Лабанаўка Чэрыкаўскага раёна. На яе драўляную пабудову часоў яшчэ цара Гароха проста вусцішна зараз глядзець. За вучняў боязна. Асноўны яе корпус ледзь трымаецца на апірышчы з тоўстых бярвенняў. Сцены пакасавурыліся, столь прагнулася. Дадатковы корпус неяк зімой напалову згарэў. Малюнак, словам, не для слабанервовых. Але ж грошай на будаўніцтва новай вясковай школы ад году ў год ніяк не знаходзіцца.

Вось вам і ўвесь прэзідэнцкі гучны клопат пра пацярпелае ад радыяцыі насельніцтва, пра падрастаючае пакаленне, пра яго духоўнае і фізічнае здароўе. А як жа на гэту тэму, як і на тэму эканамічнай стабілізацыі, любіць ускалыхваць паветра наш "усенародна абраны". Слухаючы гэтыя ўсплёскі, афарбаваныя эмоцыямі і пафасам, міжвольна думаецца: усё словы, шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, усё спекуляцыі на бядзе народнай. На вялікі жаль...

**Максіма КАСТРЫЦА.**

## ДАЎНІНА І СУЧАСНАСЦЬ

# Цяжка абвергнуць дакументы

***За апошнія некалькі год сталі вядомыя дакументы, якія падцвярджаюць факты шматлікіх і масавых выступленняў жыхароў Беларусі ў 20-30-я гг. супраць Савецкай улады. З большага ў іх прымалі ўдзел сяляне, бо пасля кастрычніцкага перавароту 1917 г. вядучай галіной эканомікі Беларусі заставалася сельская гаспадарка, дзе працавала 85 % насельніцтва. У той час рэквізіцыі, канфіскацыі, эпідэміі, гібель на франтах працаздольнай часткі насельніцтва не мінулі беларускую вёску.***

Не толькі адносна малалікія "кулакі", але і серадняки ў Расіі і ва Усходняй частцы Беларусі (не акупаванай польскімі войскамі і ўключанай у склад РСФСР) добра зведалі палітыку "ваеннага камунізму" і асабліва "харчразвёрстку", калі ў сялянаў адбіралі амаль увесь хлеб, бульбу ды іншыя прадукты. Гэта апустошвала вёску, выклікала голад. Эканамічныя авантуры з бальшавікоў, гвалтоўнае стварэнне камун і саўгасаў, рабаўніцтва — гэтыя і іншыя прычыны прымушалі сялян глядзець у бок лесу, уздымаць хвалю паўстанняў. Іх саюзнікамі ў барацьбе з Савецкай уладай былі 4000 дэзерціраў ва Усходняй частцы Беларусі ў 1920 г., якія былі ў аддзелах "зялёных" і не жадалі ваяваць за бальшавіцкі ўрад.

Узначальвалі гэты рух эсэры і частка меншавікоў, якія, дарэчы, узяліся за зброю не столькі з-за карыслівых матываў (страта ўлады), колькі па ідэйнаму разуменню: яны былі сведкамі парушэння свабоды і дэмакратыі — тых вышэйшых каштоўнасцей, за якія гатовы былі аддаць жыццё.

У савецкай гістарыяграфіі антыбальшавіцкі рух меў назву "бандытызм", "банды", "нацыяналісты" і г.д. Аднак гэта звычайная вёска з дапамогай партызан імкнулася адстойваць свае інтарэсы. Таму ў лістападзе 1918 г. адбылося паўстанне сялян у Вяліжы, у сакавіку 1919 г. антысавецкае паўстанне ў Гомелі, паўстанні 1919 г. у Чавусах, Горках, Воршы і г.д.

Між гэтых антысавецкіх паўстанняў належнае месца зойме і Прапойскае паўстанне 1919-1920 гг., якое ахапіла тры чвэрці тэрыторыі Прапойскага раёну (зараз Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобласці). Прычыны выступлення сялян былі вышэйзгаданы. Да іх дадаткова патрэбна аднесці яшчэ і нацыянальны ўціск. Бо ў пачатку 1919 г., па рашэнню ЦК РКП (б), Віцебская, Смаленская, Магілёўская губерні былі вылучаны з БССР і далучаны да РСФСР. На гэтай тэрыторыі з боку мясцовага партыйнага і савецкага кіраўніцтва панавалі антыбеларускія настроі, непрыняцце беларушчыны.

Звесткі пра Прапойскае паўстанне ўтрымліваюцца ў матэрыялах Прапойскага РК КПБ (б) за 1930 г., якія знаходзяцца ў архіве г. Магілёва. Гэта старонка машынадрукаванага тэксту, якая з'яўляецца данясеннем мясцовага райаддзелу міліцыі ў райкам ад мая 1930 г. аб "Палітстановішчы раёну". Звязваючы тагачасны стан (1930 г.) сялян з калектывізацыяй, у данясенні шмат кажацца аб падзеях 1919-1920 гг. Прычым сама міліцыя ўжывае тэрмін "паўстанне"! Адзначана і вёска Жалезенка Іванішчавіцкага сельсавету, у якой знаходзіўся штаб паўстання, што сведчыць аб добрай арганізацыі. Як сказана ў данясенні, вёска была ўтворана ў царскі час. Жыхарамі яе былі перасяленцы. На думку органаў, у 1930 г. палову жыхароў вёскі складалі кулакі і моцныя серадняки, палову серадняки і бедняки. Восенню 1996 г. я наведаў гэтыя мясціны і ў сельсавеце мне падцвердзілі, што вёску заснавалі "западнікі", якія за царскім часам перасяліліся сюды з Заходняй Беларусі, самі выкарчавалі лес, высушылі балоты, распрацавалі глебу. Таму лічылі вартым толькі працу і тое, што яна дае. Невыпадкова ў Жалезенцы знаходзіўся штаб, бо жыхары катэгарычна не прымалі бальшавіцкіх рабункаў. Вось прозвішчы заснавальнікаў вёскі: Гоевы, Грамыкі, Грахоўскія, Пухоўскія, Іваноўскія. У большасці, пазней, яны былі "раскулачаны" і высланы за межы Беларусі. А раскулачвалі, па ўспамінах Кураленкі Анны Савельеўны (1922 г.,н. па бацьку Варэннікава), за тое "што гусей памногу было, кароў шмат мелі, садочкі... я добра памятаю, у той час я ладная была".

З данясення можна даведацца, што і "гэтыя усі сельсаветы удзельнічалі у паўстанні": Прапойскі мястачковы, Васькаўскі, Ржаўскі, Кульшыцкі, Іванішчавіцкі, Чэрнякоўскі, Гайшынскі, Гіжэнскі". Насельніцтва гэтых сельсаветаў пад час паўстання 1919-1920 г.г. — "убівалі чырвонаармейцаў, адбіралі абмундзіраванне і снараджэнне..." Найбольш актыўнымі былі жыхары Кульшыцкага і Іванішчавіцкага с/с. Выступленні супраць Савецкай улады працягваліся да 1921 г., а ў Чэрнякоўскім, Іванішчавіцкім, Гайшынскім с/с ажно да 1929 года. Пэўныя звесткі аб паўстанні маюць: Кураленка А.С. ад свайго бацькі, член-карэспандэнт АНБ Марчанка І.Я. ад сваёй маці.

Але мала гэтых сведчанняў, мала вядома дакументаў. Таму няма пакуль звестак аб кіраўніках паўстання, як падаўлялася паўстанне, невядомы прозвішчы загінуўшых герояў. Але, я ўпэўнены, гэты факт яскрава абвяргае існаваўшы да нядаўняга часу міф аб усеагульнай падтрымцы беларускім народам камуністычнай партыі бальшавікоў і Савецкай улады.

Шэраг беларускіх гісторыкаў сцвярджалі, што ў цэлым з палітычным "бандытызмам" (супраціўам) было пакончана да 1922, а цалкам да сярэдзіны 1926 г. Гэта — хлусня, што падцвярджаецца Прапойскім паўстаннем і яшчэ адным дакументам з Магілёўскага архіва. Гэта Даведка Магілёўскага РК КП (б) аб палітычна-эканамічным аглядзе Магілёўскага раёна за 1935 год. У ёй асабліва выдзелены раздзел аб контррэвалюцыйнай дзейнасці мясцовага насельніцтва супраць Савецкай улады. З дакумента яскрава бачна, што "бандыты" (сябры партызанскіх атрадаў) забівалі толькі актывістаў, сельсаветчыкаў, палілі калгасную маёмасць. І не здзяйснялі крымінальных злачынстваў. У перыяд 1921-1928 гг. дзейнічалі узброеныя партызанскія атрады Пруднікава, Новікава, Казановіча, Рыжыкава-Бестужава, Ступакова, Агароднікава на тэрыторыях Гарадзішчанскага, Дасовіцкага, Махаўскага, Алехоўскага, Шчажэрскага, Таранаўскага, Мастоцкага, Машанакскага, Гаранскага, Бракаўскага, Пашкаўскага сельсаветаў. Дзейнічалі яны і на сумежных тэрыторыях Чавускага, Шклоўскага раёнаў. Асабліва ў дакуменце адзначана, што супраціў працягваўся і да 1935 г. на абшарах Гаранскага, Пашкаўскага, Мастоцкага, Таранаўскага і Махаўскага сельсаветаў. Дадзеныя тычацца толькі невялічкай тэрыторыі — Магілёўскага раёна. Дакументы абвяргаюць вучоных-палітыканаў.

Завяршыць хочацца яшчэ аднай вытрымкай з дакумента за 1934 год: "Сярод вучняў 15-й школы на Лупалаве праяўлена кіданне венікаў, ануч, страляне з рагатак у партрэты Леніна і Калініна, выпадкі антысемітызму, выступленні супраць піянерызацыі з выкрыкам "Няхай падохнуць усі піянеры". Дзеці звычайна робяць тое, аб чым гавораць бацькі...

**ІГАР ПУШКІН,**
**дырэктар Музея гісторыі Магілёва.**

**Магілёўскі раён**



Мяжа раёну на 1932г.
Выступленні супраць Савецкай улады да 1935г.
Выступленні супраць Савецкай улады да 1928г.

**Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобласці**



Мяжа раёну на 1994г.
Мяжа раёну на 1932г.
Выступленні супраць Савецкай улады 1919-1920гг.
Выступленні супраць Савецкай улады 1919-1921гг.
Выступленні супраць Савецкай улады 1919-1929гг.

---

ЮРАСЬ ПІВУНОЎ

*Ён доўгі і цяжкі —*
*той шлях...*
*Твой шлях да Бога...*
*Душа спустошаная*
*просіць паратунку.*
*"Ўсявышні, памажы!" —*
*ляціць малітва*
*ў Вечнасьць,*
*ды вельмі моцныя яшчэ*
*цянёты д'ябла.*
*Як цяжка разарваць*
*грахоў ланцуг заганны,*
*як цяжка*
*над будзённасьцю*
*ўзьляцець,*
*й спазнаць пяшчоту*
*Боскую,*
*і пакаяньне...*
*І дараваньне,*
*калі яшчэ ня позна*
*дараваць...*

---

# Предложение, от которого нельзя отказаться?

Известно, что наше государство не приветствует у своих граждан инициативы и "неправильного" понимания ситуации и политики. Сегодня людей, особенно молодых, снова воспитывают в духе безучастия и пассивности. Оптимальная для властей формула поведения молодежи была бы такой: не думаем, не видим, не хотим знать. Понятно, что не стоит судить огулом, но, к сожалению, похоже на то, что большинству белорусов до 20 лет вряд ли что-либо интересно, кроме материального благополучия и сытости желудка.

Стремление "быть сытым и одетым" естественно для всех людей. Возможно, из молодого поколения, зараженного "вещизмом" и роком, вырастет работоспособный и ответственный обыватель. Он заработает достаточно на себя и свою семью, не будет воровать, добросовестным трудом "поднимет" сельское хозяйство и промышленность... Однако белорусская реальность предполагает совсем другое развитие событий. Вслед за авангардом строителей старо-нового общественного строя — ветеранами, за подкупленными смехотворной надбавкой к зарплате педагогами, конформистами-предпринимателями начинает формироваться еще один оплот нынешней государственности в Беларуси — объединённая в "единую сильную организацию" молодежь. Теперь эта молодёжь должна стать "патриотами". Та самая, которая не интересуется политикой, а мечтает о сытой жизни. Та самая, манипулировать которой искушенному в интригах госаппарату оказалось легче всего. А патриотизм будущего союза заявлен в преданной любви к президенту и, соответственно, ко всему, что он прикажет полюбить.

Нонсенс? Нет, если следовать правилу: кто платит, тот и заказывает музыку. Обещание финансовой поддержки — это тот крючок, на который можно поймать не только бывших комсомольских лидеров, сохранивших чутье к наживе. В состав оргкомитетов БПСМ вошли те мелкие молодежные организации (всего в республике их было 56), которые занимались пусть скромным по масштабу, но "бизнесом". В Могилеве, например, это штаб студенческих отрядов, в последнее время оставшийся со своими проблемами один на один. Несмотря на то, что государство считает самостоятельное существование подобных организаций делом "нецелесообразным", они надеются продолжить свою работу, используя часть обещанных им средств,если войдут в новый союз. Налицо те конкретные обстоятельства, при которых "не заглотить наживку" многие не смогут. Замечу: предпочитая при этом не задумываться о последствиях.

Вспоминается эпизод, ярко характеризующий людей, привыкших жить и думать в условиях господства одной идеологии. Так, в день августовского путча 1991 г. у дверей комитетов комсомола промпредприятий собирались десятки молодых, желающих восстановить свое членство. И сегодня тех, кто успел "засветиться" в оргкомитах БПСМ, уже засыпали просьбами "замолвить словечко" за опоздавших.

Безусловно, в Лукомоле "пахнет" большими деньгами. Деньги в нынешней идеологии — основополагающая категория. А государству, надо сказать, будет за что платить. Ведь по уставу союза каждый секретарь организации, в любой структуре, будь то институт, фабрика или городская "вертикаль", автоматически становится замом местного руководителя.

И этот расчет тоже верен: наживка оказалась самой что ни на есть съедобной. Не имея иных ориентиров, кроме материальных, молодежь согласна играть под государственную дудку. Мало надежд на то, что на учредительном съезде в устав БПСМ будут внесены положения, ограничивающие сугубо идеологическую направленность и полномочия "президентской" молодежи.

В отношении "верного хода", основанного на игре худшими чувствами людей, политика нашей власти безупречна. Она — прямое продолжение коммунистической политики советских времен. Одним из главных "достижений" той власти следует признать то, что ей удалось полностью разучить большинство населения работать и брать на себя какую бы то ни было ответственность. Взять, к примеру, тот же Белорусский Союз Молодежи (я имею ввиду его могилевский вариант). Да, под маркой местного обкома БСМ проводилось множество мероприятий. Но их настоящими организаторами и исполнителями были другие люди, специалисты из Дома пионеров, Дворцов культуры и т.д. А деньги на "мероприятия" и зарплату обкомовскому штату исправно выделяли "старшие товарищи" из облисполкома. Таким образом, банковский счет обкома идеально подходит для "отмывания" денег и сбора "добровольных" пожертвований от любых организаций.

Из помещения обкома БСМ был выселен штаб студенческих отрядов, хотя трудоустройство молодежи фигурировало в отчетах обкома о проделанной работе. Что поделаешь, таково традиционное у нас назначение чиновничьего аппарата — самим назначать себе цену и все усилия направлять на утверждение собственной "значимости". Молодые ребята, в удобных креслах кабинетов рассуждающие о необходимости существования такой структуры, никогда не смогут ничего противопоставить БПСМ или любому другому объединению "сверху". По одной очевидной причине: отсутствию реальных, полезных дел.

**АННА СТРИЖ**

*P.S. Ад рэдакцыі. У першай дэкадзе мая ў Мінску павінен адбыцца арганізацыйны з'езд патрыятычнага саюза моладзі. Друкуючы гэты артыкул, мы, вядома, не спадзяемся, что задуманую прэзідэнцкім атачэннем акцыю можна спыніць або зменшыць яе разбуральны эфект. Але ёсць час яшчэ падумаць над тым, куды і навошта "аб'ядноўваюць" моладзь і ці варта з лёгкасцю "падпісвацца" пад гэтым. Ёсць магчымасць на самім з'ездзе ўважліва разабрацца ва ўсім, што будзе прапанавана. Уступаюць у падобныя арганізацыі пад апладысменты, а выходзяць — пад улюлюканне і пераслед... Яшчэ ёсць час усё ўзважыць.*


Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі 6

Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82